# ДЗЕНЬ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ Ў ГОРАДНІ...

"Жы-ве Бе-ла-русь! Луку на муку!" "Рукі прэч ад "Бацькаўшчыны"!" - пад такімі лозунгамі па вуліцах Горадні прайшло сьвяточнае шэсьце, прысьвечанае дню Незалежнасьці. Сьвята распачалося ля мемарыяльнай дошкі паўстанцам 1863 году, усталяванай на чыгуначным





вакзале. Затым былі ўскладзеныя кветкі да помнікаў Янку Купалу і Элізе Ажэшцы.

"Беларусы і палякі заўсёды змагаліся разам за сваю незалежнасьць!" -падкрэсьліў у сваім выступе ля помніка слыннай польскай пісьменьніцы Старшыня Саюзу палякаў на Беларусі Тадэвуш Гавін. А таму невыпадкова ўдзел у сьвяточным шэсьці пад сваім штандарам бралі і прадстаўнікі польскай грамадзкасьці горада. Упрыгожаная дзесяткамі бел-чырвона-белых сьцягоў, калона накіроўваецца на Замкавую гару. На вуліцах Горадні ў шэсьце ўліваюцца дзесяткі прахожых. Каля помніка Вялікаму князю Літоўскаму Вітаўту гучаць словы ўдзячнасьці і павагі да продкаў, кроў якіх , пралітая за вольную Беларусь, ляжыць чырвонай палоскай на нашых сьцягах. Невялікая дэлегацыя ўдзельнікаў шэсьця ўскладае кветкі да мемарыяльнай дошкі героям Тадэвуша Касьцюшкі, усталяванай на Новым каралеўскім палацы.

І ўрэшце - Каложа. Дзесяткі людзей накіроўваюцца ў царкву, каб паставіць сьвечкі, узнесьці да Бога малітву за Беларусь, дакрануцца да сьвятыні, якая больш за 800 гадоў зьяўляецца сімвалам Горадні і Беларусі. Ля Грунвальдзкага каменя адбыўся мітынг у абарону незалежнасьці краіны, у якім удзельнічалі прадстаўнікі палітычных партый, грамадзкіх аб'яднаньняў, гараджане.

Скончыліся сьвяточныя мерапрыемствы ў Горадні канцэртам удзельнікаў фестывалю "Песьня над Нёманам", які адбыўся ў драмтэатры.

**Вітаўт РУДНІК.**

# СТОЛЬ НЕ БЫВАЕ АДНАЧАСОВА БЕЛАЙ І ЧОРНАЙ

**У сталіцы 19 ліпеня асудзілі да ўмоўнага пазбаўленьня волі за хуліганства віцэ-старшыню партыі аматараў піва А.Рамашэўскага. Ён абвінавачваўся ў тым, што разам з калегамі-студэнтамі вывесіў над грамадзкай прыбіральняй тыпу "мэ-жо" сьцяг БССР, а потым спаліў яго.**

У дзеяньнях спадара Рамашэўскага адсутнічае склад злачынства, і зараз я Вам гэта дакажу.

Па-першае. Нашую дзяржаўную сімволіку абараняе артыкул 186(2) Крымінальнага Кодэксу. Згодна з ім, караецца зьдзек над дзяржаўнымі сімваламі. Дзяржаўны сьцяг ёсьць толькі афіцыйна зацьверджаны і апісаны сьцяг і нішто іншае. Сьцяг, які стаў вынікам калектыўнай творчасьці "электарату", не зьяўляецца копіяй бэсэсэраўскага сьцяга. Таму дзеяньні Рамашэўскага пад артыкул 186(2) КК не падпадаюць. Да таго ж, на час учынку новая сімволіка не была афіцыйна зацьверджана.

Аднак Рамашэўскага прыцягнулі за хуліганства (арт. 201 КК). У прынцыпе, некаторыя дзеяньні са сьцягамі могуць выказваць непавагу да грамадзтва, быць дзёрзкімі і цынічнымі. Асабліва, калі гэта сьцягі, якія раней зьяўляліся афіцыйнымі сімваламі дзяржавы. Але ў такім выпадку любы былы дзяржаўны сімвал мае аднолькавы юрыдычны статус. Гэта значыць, што з пункту гледжаньня закону ўсё роўна, калі міліцыянты вырываюць з рук людзей бел-чырвона-белыя сьцягі і дэманстратыўна іх нішчаць і зьдзекваюцца, і калі нехта вывешвае бэсэсэраўскі сьцяг над прыбіральняй , а потым яго паліць. Паўтару - усё роўна.

Ні адзін суд ня ў стане абвергнуць мае довады, асабліва другі. Калі ж яму гэта ўдасца, то гэтыя абвяржэньні безумоўна паслужаць падставамі для прыцягненьня да крымінальнай адказнасьці тых, хто зьдзекваецца з нацыянальнай сімволікі.

Я не чытаў прыгавору суддзі А.Курыловіча. Але там: а) альбо няма абвяржэньня майго доваду, б) альбо яно ёсьць, і тады гэта фармулёўка зьяўляецца прэцэдэнтам для абвінавачваньня ўсіх, хто падымаў ці падыме руку на бел-чырвона-белы сьцяг.

**Сяргей САМАСЕЙ.**

# ...І Ў ЛІДЗЕ

**Дэмакратычныя арганізацыі Ліды адсьвяткавалі 27 ліпеня ў форме ўжо традыцыйнага фэсту ля магіл паўстанцаў 1863 году паміж вёскамі М.Ольжава і Мохавічы.**

Сьвятую імшу адслужыў ксёндз Томаш, казаньне якога было прысьвечана велічы духу змагароў за незалежнасьць. Слова падзякі да людзей за памяць і веру сказаў старшыня Лідзкай рады БНФ Станіслаў Суднік. Ганаровую варту трымалі ветэраны Арміі Краёвай. Прысутнічалі некалькі сотнях чалавек з Ліды і навакольных вёсак. Для кантролю за ходам фэсту ад раённых уладаў, якія не далі дазволу на гэтую акцыю, прыбыў намесьнік старшыні райвыканкаму Зыгмунт Чапля з падраздзелам міліцыі. Але ўсе людзі паводзілі сябе прыстойна, не турбавалі ахоўнікаў парадку нават бел-чырвона-белыя сьцягі. Магчыма таму, што самі міліцыянты носяць да гэтага часу на цэшках "Пагоню".

**Усяслаў ВОЙНІЧ.**

**Фота Уладзіміра Хрышчановіча.**



# НА "НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ" НЕ ХАПІЛА СІЛ?

**Лесьвіцы, калідоры, вестыбюль Шчучынскага Дома Саветаў вычышчаліся-вымываліся з асаблівай скрупулёзнасьцю, да бляску. Нават супрацоўнікі, што працуюць тут з дзесятак год, зьдзівіліся: такой "капітальнай чысткі" на іх памяці не было!**

Зьдзіўленьне гараджан перарасло ў шчырае захапленьне, калі за лічаныя дні пераўвасобілася цэнтральная частка горада: былі падстрыжаны газоны, пафарбаваны слупы, пабелены дрэвы, адноўлены пешаходныя пераходы і некаторыя гарадзкія аўтапрыпынкі, заасфальтаваны выбоіны на дарогах... Знайшліся-такі сродкі, людзі, сілы!

Па горадзе папаўзла чутка: да нас едзе сам прэзідэнт!

Прэзідэнт, аднак, не прыехаў. А генеральная ўборка праводзілася нібыта да Дня Незалежнасьці рэспублікі. Праўда, была яшчэ адна прычына: абласная нарада ворганаў выканаўчай улады па падвядзеньню вынікаў працы за паўгода, якая планавалася на 26 ліпеня.

Гасьцей Шчучын сустракаў нязвыкла чыстым і акуратным. На тратуарах разьмясьціліся прыватныя гандлёвыя стэлажы і сталы з прысмакамі, гароднінай, фруктамі, напоямі. У фае Дома Саветаў працавала выстава-продаж кулінарных і кандытарскіх вырабаў . Пыл на вуліцах зьбівалі палівачныя машыны.

... А назаўтра - Дзень Незалежнасьці. У горадзе - ціха і сьпякотна. Не было, як напярэдадні, выязднога гандлю. І вецер разносіў пыл, нараджаючы ўспамін пра палівачныя машыны.

У гарадзкім парку, дзе павінна было адбыцца сьвята, працавалі каруселі. Аўталаўка прапаноўвала гарэлку і закусь. Зранку на летняй эстрадзе крыху пасьпявалі артысты. Ужо пад абед у парку не засталося нікога, акрамя некалькіх аматараў моцных напояў і сумуючых параў.

Вось і уся "незалежнасьць". Напэўна, пасьля гандлёвай праграмы напярэдадні, на незалежнасьць не хапіла сіл...

**В.С.**

# КАРАБЕЛЬ ТОНЕ...

Кіраўніцтва Савету бясьпекі , КДБ, МУС, Генеральнай пракуратуры і Вярхоўнага Суду атрымалі даручэньне падрыхтаваць праект указу "Аб мерах па стабілізацыі грамадзка-палітычнай абстаноўкі ў краіне і спыненьні супрацьпраўных дзеяньняў антыдзяржаўнага і антыпрэзідэнцкага характару". Пастанова такога зьместу была прынята на сумесным паседжаньні Савету бясьпекі і калегіі Кабінету Міністраў Беларусі, якое праходзіла 30 ліпеня пад кіраўніцтвам А.Лукашэнкі. Па ініцыятыве прэзідэнта створана таксама сьпецыяльная камісія для кантроля за выкананьнем указаў, пастаноў і распараджэньняў прэзідэнта, якую ўзначаліў сакратар Савету бясьпекі В.Шэйман.

А.Лукашэнка падверг таксама крытыцы дзейнасьць ураду, расцаніўшы яго працу як нездавальняючую. У выніку на паседжаньні былі задаволены заявы аб адстаўцы намесьніка прэм'ер-міністра краіны Леаніда Сініцына і міністра эканомікі Георгія Бадзея.

# ПАЖАРНІКІ СУПРАЦЬ "БАЦЬКІ"

Дзень Незалежнасьці 27 ліпеня ў Лідзе пачаўся з вэрхалу. Каля сямі гадзін раніцы ў бок аўтавакзала кінуліся пажарныя машыны. Але дымам там і ня пахла. Пажарнікаў выклікалі, каб зьняць партрэты "усенародна абранага", якія ноччу "удзячныя грамадзяне " вывесілі на коміне грамадзкай прыбіральні і сьцяне аўтавакзала. Партрэты былі аздоблены словамі з песьні Касі Камоцкай: "Прэзідэнт, ідзі дамоў". Пры гэтым партрэт на аўтавакзале быў павешаны ў такім месцы, што пазайздросьціў бы і вядомы лёзьненскі Мірон. Пажарнікам давялося прымяніць сваё абсталяваньне і досьвед, каб садраць "бацьку". Тым ня менш, клей у Лідзе такі файны, што ўдалося зьмыць толькі верхні слой партрэта, а ніжні застаўся бялець на сьцяне.

**Станіслаў СУДНІК.**

# МІТЫНГОЎШЧЫКАЎ – У КАЛГАС!

З 29 ліпеня і да заканчэньня збору ўраджаю ў рэспубліцы ўводзіцца надзвычайнае становішча, пры якім забараняецца праводзіць мітынгі і дэманстрацыі. Такую заяву ў гэты дзень зрабіў прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка, выступаючы ў прамым эфіры беларускага тэлебачаньня і радыё. Пры гэтым ніякіх дакумантаў, рэгламентуючых увод надзвычайнага становішча, Лукашэнка пакуль не падпісваў.

**Э.-Х.**

# ПАЗЬНЯК ПАПРАСІЎ ПАЛІТЫЧНАГА ПРЫТУЛКУ

31 ліпеня З.Пазьняк і С.Навумчык, якія зараз знаходзяцца ў Злучаных Штатах, папрасілі ў амерыканскага ўраду палітычнага прытулку. Як заявіў у інтэрв'ю радыё "Свабода" Пазьняк, беларуская ўлады арганізавалі перасьлед абодвух лідараў БНФ. Статус палітычнага бежанца дапаможа ім лепш абараніць свае правы, а таксама забясьпечыць правядзеньне палітычнай лініі беларускага адраджэньня за мяжой.

**С.С.**

# Б А Л Ь Ш А В І З М

**У адносінах да бальшавікоў трэба кіравацца лагернымі прынцыпамі: - ня вер, - ня бойся, - не прасі.**

Галоўнай рухальнай сілай бальшавізму зьяўляецца прага неабмежаванай улады. Адсюль нянавісьць да любых праяваў свабоды. Бальшавізм знаходзіць шырокую падтрымку сярод людзей з рабскай псіхікай, ня здольных да самастойнага жыцьця ў складаным сьвеце. Для дасягненьня сваіх мэтаў бальшавікі выкарыстоўваюць такія сродкі, як хлусьня і гвалт. Усе палітычныя плыні ставяць мэтай дасягненьня ўлады, але ўлады ў прававой дзяржаве, у межах Канстытуцыі, пры падзеле ўлады на заканадаўчую, выканаўчую і судовую, пры захаваньні дэмакратыі, свабоды СМІ, правоў чалавека, прыватнай уласнасьці, рэлігіі і маралі. Але для бальшавікоў патрэбна неабмежаваная ўлада, без маралі і права.

Фашызм - гэта заходні варыянт бальшавізму. Фашысты зьнішчалі людзей па расаваму прызнаку, а бальшавікі - па класаваму. Фашызм быў трошкі мягчэй - пры ім часткова захоўвалася прыватная ўласнасьць і ня поўнасьцю было зьнішчана Права (Гітлер ня ўводзіў суд "троек"). Таму Лукашэнка і пахваліў Гітлера, ён зразумеў, што калі беларусаў бальшавізм у "чыстым выглядзе" ўжо не задавальняе, дык можа падыдзе фашызм. Неабмежаваная ўлада яму пры гэтым таксама гарантуецца. Замест паняцьця "арыйцы" ўводзіцца паняцьце "славяне". І засьлявалі славянскія салаўі на тэлебачаньні, базарах і саборах.

Стрыжань бальшавіцкай хлусьні – "клопат аб справядлівасьці". Для дасягненьня бальшавіцкай справядлівасьці можна грабіць і забіваць. Сутнасьць бальшавіцкай справядлівасьці – роўнасьць у рабстве, таму што пры адсутнасьці рабства ўзьнікае канкурэнцыя, і нехта без дазволу можа вырвацца наперад і стаць "няроўным". Але ж паняцьце "роўнасьць" ня тычыцца саміх бальшавікоў. Ім можна ўсё. Сярод саміх бальшавікоў таксама існуе канкурэнцыя "за месца пры карыце". Галоўны інструмент гэтай канкурэнцыі "преданность вождю", халуйства.

Народы, якія трапілі пад бальшавікоў, адстаюць у сваім эканамічным і культурным разьвіцьці, бо адсутнічаюць стымулы для стваральнай працы. У кіраўніцтве ідзе адбор не па розуму, а па "преданности". У бальшавікоў усё псуецца і ламаецца, усё дрэннай якасьці.

Праз Беларусь праходзіць мяжа паміж цывілізацыяй і бальшавізмам. Мы -франтавая краіна. На жаль, гэтыя простыя ісьціны ня ўсе ведаюць.

**С.ДАМБРОЎСКІ**









# АДМІНІСТРАЦЫЮ КАНАЛІЗАЦЫЯ НЕ ЦІКАВІЦЬ

**29 ліпеня ў Лідзе адбылася чарговая сесія гарадзкога Савету дэпутатаў. Яна была прысьвечана пытаньням экалогіі, санітарнага стану, гігіены і эпідэміялогіі.**

З дакладаў і выступленьняў можна зрабіць выснову, што асноўны цяжар барацьбы за экалогію кладзецца ў горадзе на міліцыю. Так, калі гарадзкія экалагічныя службы і санітарная за паўгода склалі каля 70 пратаколаў аб парушэньнях, то міліцыя - 6889. З улікам гэтага ў Лідзе плануецца ўвод у штат аддзела ўнутраных справаў трох штатных адзінак экалагічнай міліцыі.

Сур'ёзнае пытаньне падняў дэпутат Бушлякоў. Справа ў тым, што ў пасёлку Маладзёжны, каналізацыя ад часткі прыватных катэджаў выведзена проста ў лес. Актывісты экалагічнага руху Ліды б'юць у званы ўжо з паўгода, дапісаліся аж но да Адміністрацыі Прэзідэнта, а меры не прымаюцца. Чаму?

Як тлумачыць адзін з іх, Іван Вадэйка, таму што частка *катэджаў належыць высокім лідзкім чыноўнікам. Але, як* зазначыў дэпутат Бушлякоў, ён ня змог вызначыць, каму якія катэдж належыць, бо інфармацыя аб гэтым маецца толькі ў тых жа чыноўнікаў.

**Станіслаў СУДНІК.**



# МУЖЫКІ ЗМАГАЮЦЦА З ЖАНЧЫНАЙ

**Некалькі дзён таму пракуратура Рэспублікі Беларусь прынесла пратэст на рашэньне народнага суду Астравецкага раёну, згодна з якім было адмоўлена ў аднаўленьні на працы былому інспэктару аддзела адукацыі Смаргонскага гарвыканкаму, дэпутату гарсавету, сябру БСДГ Ірыне Вештард, якая была звольнена з нагоды скарачэньня штату.**

Адразу было бачна, што суд Астравецкага раёну кіраваўся ня той нормай заканадаўства, не праверыў, па якіх прычынах звольненай не былі прапанаваны вакантныя пасады. Але гэтага не захацела ўбачыць абласная пракуратура, куды спачатку са скаргай зьвярнулася Ірына Вештард.

Трэба адзначыць, што скарачэньню папярэднічала дача згоды на звальненьне дэпутата сесіяй гарадзкога Савету. Старшыня Смаргонскай арганізацыі БНФ дэпутат Віктар Шоць трапна ахарактарызаваў разгляд пытаньня на сесіі як расправу над жанчынай, а таму адмовіўся прысутнічаць пры гэтым фарсе і пакінуў залу паседжаньняў. І калі Віктар Шоць выказаў пратэст, то прысутнічаўшыя на сесіі намесьнік пракурора раёну Мікола Кіндра і старшыня народнага суду Мікола Шэлег ледзь не вышэй за іншых цягнулі ўверх рукі пры галасаваньні за дачу згоды на звальненьне. Гэта зразумела - Ірына Вештард адносіцца да тых нямногіх дэпутатаў (у падаўляючай большасьці гэта сябры БНФ і БСДГ), якія сумленна выконваюць дэпутацкія абавязкі і часта падкідваюць праваахоўным органам пытаньні, зьвязаныя з парушэньнем заканадаўства на ўзроўні выканаўчай улады. А такія пытаньні для праваахоўных органаў у наш час прававога бязьмежжа і моцных, амаль што кланавых сувязяў паміж галінамі мясцовай улады, як костка ў горле. Акрамя таго, адну з пасад, на якія прэтэндавала Ірына Вештард пры звальненьні, заняла жонка Міколы Шэлега.

Зразумела, што ў такіх варунках судовая калегія па грамадзянскіх справах, куды Верштард таксама абскарджвала рашэньне суду, не прыняла да ўвагі довады ісьцыцы.

Зараз чакаецца разгляд пратэсту Пракуратуры Рэспублікі Беларусь у Вярхоўным судзе. На Вярхоўны суд Ірына Вештард ня вельмі спадзяецца, бо яго старшыня Каравай - карэнны смаргонец, а таму, відаць, добры сябра Міколы Шэлега.

**Алесь ДЗЕРГАЧОЎ.**

# ДЗІРКА АД БУБЛІКА ДЛЯ ПРАЦОЎНЫХ ТОНКАСУКОННАГА

**Сёньня на Гарадзенскім тонкасуконным камбінаце працуе каля 950 чалавек. У студзені былі скарочаны і звольнены з працы прыкладна 200 работнікаў. 15 сакавіка камбінат стаў і прастаяў да 8 ліпеня.**

З ліпеня распачалася праца, але не для ўсіх. Тыя, хто не працуе, паранейшаму знаходзяцца ў часткова аплочваемым адпачынку. Ім налічваецца па дзьве мінімальныя зарплаты, г.зн. 200тыс. рублёў. З працы ў дзьве зьмены перайшлі на адназьменную. Калектыўны дагавор на гэты год заключаны не быў. Прадпрыемства завінавацiла бюджэту прыблізна 30 млрд. рублёў.

Апошні раз людзі атрымалі заробак у траўні. Крэдыт пад зарплату ў памеры 150 млн. руб. выдзялілі пасьля візіту на прадпрыемства старшыні гарадзенскага аблвыканкаму сп. А.Дубко. Але і да сёньняшняга дня не з усімі разьлічыліся цалкам за студзень-люты.

З чаго жывуць людзі? Як расказаў старшыня свабоднага прафсаюзу работнікаў гарадзенскага тонкасуконнага камбінату сп. Адольф Зацэпін, рабочыя, а гэта пераважна жанчыны, занялiся мелкім гандлем на рынках, зьбіраюць ягады, грыбы. Каля 70% зьехалі на вёскі да бацькоў. На камбінаце ўсім вядомая гісторыя сямейнай пары, абодва супругі каторай працавалі разам. Апынуўшыся бяз сродкаў, з дзьвюма дзецьмі на руках, жонка атрымала нервова-псіхічную хваробу. Ім прыйшлося прадаць кватэру і пакінуць горад.

У гэтым годзе гарвыканкам стварыў камісію з навукоўцаў, якая маецца дапамагчы камбінату выйсьці з заняпаду. Аднак пра вынікі яе дзейнасьці рабочым, як патлумачыў сп. Зацэпін, нічога не вядома. І сапраўды: запускаць прадпрыемствы – гэта не дубінкамі махаць.

**Міхась КАПЯЛЮШ.**

# ЗАВОДЫ “ЗАПУСЬЦІЛІ”.

## ВОЗЬМЕМСЯ ЗА ПРАДПРЫМАЛЬНІЦТВА.

**22 ліпеня ў Менску прайшоў зьезд дзелавых людзей Беларусі, на якім выступіў прэзідэнт А.Лукашэнка. Мы папрасілі пракаментаваць гэтую падзею старшыню Гарадзенскага прафсаюзу прадпрымальнікаў “Ліга” сп. Яўгена Кармільчыка.**

***- Спадар Яўген, як прадпрымальнікі нашага горада ўспрынялі адбыўшыйся зьезд?***

- На колькі я ведаю, на зьездзе не было ніводнага прадстаўніка прадпрымальніцкіх колаў Гародні. Людзям надакучыла слухаць “гаврыльню”. Гаворыцца адно, а робіцца іншае.

У верасьні 1994 году ўжо праходзіла асамблея дзелавых колаў Беларусі, на ёй таксама прысутнічаў А.Лукашэнка. Пасьля ўсе дзяржаўныя газеты выкарысталі словы прэзідэнта: “Прадпрымальніцтву - быць!” у якасьці загалоўкаў да артыкулаў. Прайшло амаль два гады, а адносіны дзяржавы да прадпрымальніцтва толькі пагоршыліся. Прадпрымальніцкія саюзы, якія ствараліся раней, былі, пасутнасьці, адкінуты ў бок. Улады не далі разьвіцца ініцыятыве зьнізу, а ўвесь час накідваюць ініцыятыву зьверху.

Таму прэзідэнцкі зьезд нішто іншае, як спроба навязаць свой погляд на прадпрымальніцтва, сваё праграмы. Гэта проста палітычная гульня.

***- Але ж зараз створана Міністэрства прадпрымальніцтва і інвестыцыяў. Прэзідэнт падпісаў указ “Аб дзяржаўнай падтрымцы малога прадпрымальніцтва”...***

- Проста выдаць указ, або стварыць міністэрства мала. Трэба мяняць дзяржаўную ідэалогію ў адносінах да дзелавых людзей. А на Беларусі прадпрымальнікаў увесь час называюць “жулікамі”, “тарбешнікамі”. А загаварылі ў нас пра прадпрымальніцтва таму, што ў Расеі на выбарах перамаглі тыя, хто праводзіць эканамічныя рэформы.

***- У дакладзе прыводзіліся дадзеныя, што толькі 60% камерцыйных структур заплацілі падатак на прыбытак, а вытворчасьцю займаецца толькі 18% прадпрымальнікаў. Астатнія гандлююць.***

- Безумоўна, нельга адкідваць у бок тое, што сярод бізнэсмэнаў як і ва ўсім грамадзтве, ёсьць людзі сумленныя і махляры.

Калі прадпрымальніцтва толькі нараджалася, тыя, хто адносіўся да справы сур'ёзна, намагаліся займацца вытворчасьцю. Але дзяржава сваёй палітыкай зрабіла вытворчасьць стратнай. Больш таго. Сёньня выканаўчая ўлада зьнішчае і гандаль. Многа прадпрыемстваў проста банкрутуе. Таму і ня плацяць падаткі.

***- Чаму ж у нас так усё дрэнна?***

- На маю думку, самая галоўная наша бяда - разгубленасьць улады. Яна ня ведае куды ісьці і што рабіць. Дылетантызм прыводзіць да развалу.

# РАБОЧЫМ ЗАВІНАВАЦІЛІ 91,2 МІЛЬЯРДА РУБЛЁЎ

**Па дадзеных статыстыкі ў Гарадзенскай вобласьці па стану на 25 чэрвеня гэтага году 327 прадпрыемстваў і арганізацый вядучых галін эканомікі мелі пратэрмінаваную запазычанасьць па выдачы заработнай платы. Агульная яе сума склала 91,2 млрд. рублёў, ці 6,2 % ад налічанага фонду заработнай платы.**

“Пагоня” папрасіла пракаментаваць інфармацыю па праблеме выплаты заработнай платы намесьніка ўпраўленьня па працы Гарадзенскага аблвыканкаму сп. Івана Буткевіча, але атрымала адмову з парадаю не шукаць у Горадні інфармацыю паблізу плошчы Леніна. Відаць, не грыбное гэта месца.

**С.С.**

# ХТО ГЭТЫЯ “ТРУДОГОЛИКИ”?

**Лічыць зароблены грошы справа амаль што марная... Тым больш у чужой кішэні.**

Згодна дадзеных Карэліцкага райаддзела статыстыкі колькасьць работнікаў раёну (акрамя кааператываў, малых прадпрыемстваў і таварыстваў з абмежаванай адказнасьцю), якім за травень 1996 году была налічана заработная плата, склала 12153 чалавекі.

Найбольшая ўдзельная вага за травень прыходзіцца на работнікаў з заработнай платай ад 800 тысяч да 1 мільёна рублёў (12,4%). Аднак яшчэ ёсьць і зарплата да 100 тысяч рублёў. Яна была налічана 59 работнікам, што складае 0,5 % іх агульнай колькасьці. Ад 100 да 200 тысяч атрымалі 932 работнікі (7,7%), затое 142 чалавекі паклалі ў кішэню ад 2 да 2,5 мільёнаў. Ад 4 да 5 млн. зарабілі 5 (0,04%) чалавек. А 2 чалавекі атрымалі нават ад 6 да 7 мільёнаў.

Хто ж гэтыя “трудагалікі” на мясцовым узроўні? Гэта кіруючыя асобы з аддзяленьня Аграпрамбанку і райбальніцы. Яшчэ 1 чал. атрымаў ад 5 да 6 млн.

Асноўны кантынгент калгасьнікаў атрымлівае за сваю працу зарплату ад 400 да 500 тысяч рублёў (13,4 %).

**Л.ЯСЕНЬ.**

# ДЗЯКУЙ РОДНЕНЬКАЙ УЛАДЗЕ

**З 1 чэрвеня беларускія ўлады ашчасьлівілі падаткаплацельшчыкаў нечаканай палёгкай. Стаўка падатку на ўтрыманьне ведамаснага жылога фонду зьменшана з аднаго да 0,5 працэнта, а для бюджэтных установаў, калгасаў, сялянскіх (фермерскіх) гаспадарак, прадпрыемстваў бытавога абслугоўваньня насельніцтва, гандлю, прадпрыемстваў, якія скарыстоўваюць больш, чым на 50 працэнтаў ад сярэднесьпісачнай колькасьці прамыслова-вытворчага персаналу, працу інвалідаў да - 0,3 працэнта ад аб'ёму валавога даходу. Сумы падатку адлічваюцца ў пазабюджэтны фонд абласнога Савету дэпутатаў.**

Разам з тым памяншэньне стаўкі не зьняло асноўнага пытаньня - пытаньня абсурднасьці самаго падатку. Сапраўды, калі жальлё ведамаснае, то ведамства і павінна яго ўтрымоўваць. Ведамства павінна браць кватрплату і разьлічвацца з ЖКГ, ці яшчэ з кім, за цяпло, ваду, зямлю і г.д. Калі ведамства ня можа ўтрымоўваць жыльлё, то павінна перадаць яго ЖКГ, што ў прынцыпе і робіцца.

Напрыклад, на мінулым паседжаньні Дзятлаўскі райвыканкам дазволіў Казлоўшчынскаму ПТВ-191 перадаць на баланс вытворчага аб'яднаньня жыльлёва-камунальнай гаспадаркі наступныя аб'екты: 20-кватэрны жылы дом па вуліцы Леніна 44"А" і такі ж дом па вуліцы Савецкай 15"Б", воданапорную вежу, сеткі вадаправода і бытавой каналізацыі. Такіх прыкладаў шмат. Тым ня менш падатак застаецца. І плаціць, скажам, ЗАТ "Каскад" з Ліды падатак на ўтрыманьне інтэрнату абутковай фабрыкі, хаця ні адзін работнік "Каскада" ў гэтым інтэрнаце не жыве і жыць ня будзе. Магчыма "Каскад" і павінен што-небудзь плаціць на горад, але плацёж павінен мець законную логіку. Яшчэ абсурдней атрымоўваецца з фермерамі. Фермер поўнасьцю ўтрымоўвае сваё жыльлё. З аднаго боку яно яго ўласнае, з другога - ведамаснае, бо належыць ферме. Тое, што фермер заплаціць 0,3 працэнта ў фонд, відавочна, як відавочна і тое, што з фонду на ўтрыманьне свайго жыльля ён не атрымае ні капейкі. Тады каму пойдуць яго грошы? Пра гэта фермер не даведаецца ніколі.

Падатак на ўтрыманьне ведамаснага жыльля ўводзіўся на адным з этапаў барацьбы КПСС за выкананьне жыльлёвай праграмы, каб заахвоціць адны прадпрыемствы будаваць жыльлё для сваіх рабочых і абавязаць іншых ім дапамагаць. З тых часоў ня стала КПСС, жыльлёвых праграм і ведамасных будоўляў. Засталася канкрэтная маёмасьць канкрэтных уласьнікаў і абсурдныя паборы, нібыта для падтрыманьня чужой уласнасьці ў належным стане.

**С.РУБАЛЬСКІ.**

# ДЭКЛАРАЦЫЯ НОВАЯ. ПРАБЛЕМЫ – СТАРЫЯ

**Дзяржаўны мытны камітэт зацьвердзіў новую форму мытнай дэкларацыі (ТД-;). У ёй болей ня трэба указваць хатні адрас. Спрасьцілася працэдура дэклараваньня ўвозу аўтамабіляў. Уведзена такая навіна, як вуснае дэклараваньне грузу, калі асоба, якая накіроўваецца праз мяжу, ня мае валюты, альбо рэчаў, увоз-вываз якіх забаронены альбо абмежаваны.**

Нягледзячы на фармальнае спрашчэньне дэкларацый, сутнасьць мытнага дагляду не зьмянілася. Мытня па-ранейшаму прасьвечвае практычна ўсіх, хто перасякае мяжу. І тых, хто мае ў кішэні 100-150 даляраў для куплі ў Беластоку капусты, памідораў ці цыбулі, і тых, хто едзе за патрыманым “Фольксвагенам” ці “Сітраэнам”. Што тычыцца прафесійных “чаўнакоў” і буйных экспартна-імпартных фірм, то яны навучыліся вырашаць праблемы “рыначнага сацыялізму” сваімі сродкамі і ўжо даўно не разьлічваюць на стварэньне дзяржавай спрыяльных умоваў для свайго бізнэсу.

**С.С.**



ДАСЬЛЕДАВАНЬНІ

*Юры ХАДЫКА*

# БЕЛАРУСКАЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ІДЭЯ НА МЯЖЫ ДВУХ СТАГОДДЗЯЎ

**(Працяг. Пачатак у №30)**

У адрозьненьне ад гэтага ў Заходняй Эўропе наднацыянальная царква спрыяла нараджэньню ідэі роўнасьці народаў побач з ідэяй роўнасьці людзей. У выніку і склалася тая супольнасьць роўных нацыянальных дзяржаў, якую завуць эўрапейскаю сям'ёю народаў. Праўда, станаўленьню ідэі роўнасьці нацыі спрыяў і царкоўны раскол у заходнім хрысьціянстве, які адбыўся ў XVI ст. З гэтага стагоддзя і можна лічыць пачатак ідэалогіі нацыяналізму.

Нацыяналізм прызнае натуральным фізічнае і духоўнае існаваньне чалавека ў межах супольнасьці, якая завецца нацыяй, і якая імкнецца да аўтаномнага ( суверэннага) дзяржаўнага існаваньня, арганічнага адзінства (цэласнасьці) грамадзтва і культурнай самаідэнтыфікацыі сваіх членаў. Нацыяналізм супрацьстаіць такім чынам любым формам уніфікацыі чалавецтва ў выглядзе імперыялізму, касмапалітызму, таталітарызму, фашызму, камунізму, інтэрнацыяналізму і г.д. і прызнае нацыянальна-культурную разнастайнасьць чалавецтва ня толькі вынікам сусьветнай гісторыі, але і боскім провідам, які гарантуе ад фізічнага выміраньня і духоўнай дэградацыі людзей як біялагічнага віду.

Нацыяналізм лічыць рэальна існуючым ня толькі кожную сьмяротную асобу, але і патэнцыйна несьмяротную суперчалавечую асобу - нацыю, якая ў сілу прынцыпу роўнасьці людзей характарызуецца перасячэньнем усёй той множнасьці індывідуальных якасьцяў і рысаў, што ўласьцівыя кожнаму з тых людзей, што прызнаюць сябе членамі нацыі. Гэта дазваляе нацыяналістам гаварыць аб нацыянальным характары, менталітэце, культуры, гісторыі, станоўчых і адмоўных якасьцях нацыі, таксама як гэта гаворыцца адносна любога індывіду.

Акрамя духоўнай самаідэнтыфікацыі другой найістотнейшай уласьцівасьцю суперчалавечай асобы зьяўляецца належная ёй кампактная тэрыторыя расьсяленьня, якая і ствырае фізічную падставу для ўтварэньня нацыянальнай дзяржавы, як найвышэйшай формы самаарганізацыі і культурнага разьвіцьця нацыі.

Для нацыяналістаў найвялікшым злачынствам супраць чалавецтва зьяўляецца генацыд - фізічнае альбо духоўна-культурнае зьнішчэньне нацыі ці пазбаўленьне яе права на неабмежаванае валоданьне і пазбаўленьне карыстаньня сваёй тэрыторыяй, што таксама вядзе да зьнішчэньня нацыі. А найвялікшай каштоўнасьцю - прынцып роўнасьці і аднолькавай годнасьці любой нацыі - вялікай ці малой. У гэтым прынцыпе выяўляецца тыпалагічная роднаснасьць нацыяналізму хрысьціянству і яго галоўнае адрозьненьне ад фашызму і камунізму, заснаваных на ідэі выбранасьці і выключнасьці.

Такім чынам, беларуская нацыянальная ідэя, як палітычная праграма рэалізацыі метадаў беларускага нацыянальна-адраджэнцкага руху павінна адлюстроўваць імкненьне беларускай нацыі да аўтаномнага існаваньня ў межах сапраўды незалежнай нацыянальнай дзяржавы, якая будуе свае адносіны з блізкімі і далёкімі суседзямі на падставе роўнасьці, адкрытасьці і безумоўнай выгады для сябе.

Сёньня гэты прынцып амаль не аспрэчваецца публічна, але рэальна не ажыцьцяўляецца ўрадам, размываецца і падрываецца праваслаўна-панслявісцкай дэмагогіяй, для якой адчынены шырока дзьверы ў беларускія СМІ, сістэму культуры і адукацыі. Дастаткова згадаць шматлікія "інтэграцыйныя" дамовы, якія наносяць эканамічную шкоду Беларусі, а таксама прэзідэнцкую прапаганду рэлігійна-афарбаванага панславізму, што відавочна супярэчыць на толькі беларускай нацыянальнай ідэі, але і Канстытуцыі краіны.

Беларуская нацыянальная ідэя ня можа прызнаць нармальнай і дапушчальнай ніякую канцэпцыю грамадзтва акрамя канцэпцыі арганічнага грамадзтва, пабудаванага на прынцыпе сацыяльнай салідарнасьці, а ня класавай барацьбы, канфрантацыі і выключнасьці тых ці іншых сацыяльных груп ці кастаў.

Гэты прынцып рашуча разводзіць нацыяналістаў з партыямі марксісцка-ленінскага тыпу і групоўкамі, што дэкларуюць этнічную, сацыяльную ці рэлігійную выключнасьць. На жаль, сёньня мы бачым няздольнасьць прэзідэнцкай улады стаць вышэй карпаратыўных ці канфесійных інтарэсаў, бачым палітыку, накіраваную на правакацыю расколу грамадзтва па моўным, культурным, рэлігійным, сацыяльным і нацыянальным прыкметам. І гэта сьведчыць ня толькі аб слабасьці існуючай улады, але і выдае яе антыбеларускую накіраванасьць.

З другога боку наша вера ў прынцып арганічнага грамадзтва патрабуе ад нас пасьлядоўна і няўхільна прытрымлівацца негвалтоўных метадаў палітычнага змаганьня. Здраднікам і калабарантам мы ня можам абяцаць згоды і дараваньня іх злачынстваў. Але мы павінны ўсімі сіламі ўмацоўваць прынцып прававой дзяржавы і пазьбягаць гвалту. Што, зразумела, не азначае адмовы ад метадаў вулічнай дэмакратыі, таму што сёньня яна зьяўляецца амаль што адзіным сродкам абароны правоў асобы і нацыянальных інтарэсаў.

Беларуская нацыянальная ідэя мусіць яўна адлюстроўваць тыя рысы нацыянальнага характару і менталітэту, якія павінны быць адроджаны і ўвасоблены ў рысах сучаснай беларускай культуры. Тыя лепшыя рысы, што былі характэрныя для нашых продкаў у часы незалежнай беларускай дзяржаўнасьці. З пункту погляду існаваньня несьмяротнай суперчалавечай асобы - беларускай нацыі, 200 год каланіяльнага заняпаду толькі эпізод, хай дастаткова працяглы і цяжкі. Але трываласьць культурнай традыцыі і адраджэньне беларускай памяці павінны дапамагчы сучасным грамадзянам Беларусі самаідэнтыфікавацца як нашчадкам і спадчыньнікам вялікай і прыгожай культуры. Яе характэрнейшымі рысамі былі:

- ***свабодалюбства.*** Нашы продкі да канца XVIII ст. ня ведалі замежнай акупацыі і звалі сваю краіну краінай "залатой вольнасьці". Яны валодалі шырокімі асабістымі правамі, замацаванымі ў Статуце 1588 г. і ня ведалі тыранічных рэжымаў. Гарады карысталіся Магдэбургскім правам, а сельскія жыхары вырашалі свае праблемы на павятовых сойміках.
- ***патрыятызм і рыцарская самаахвярнасьць.*** Беларусь разьмешчана на геакультурным разломе. Таму яе гісторыя - гэта гісторыя збройнага супрацьстаяньня, крывавай барацьбы за незалежнасьць. У XIII ст. нашы продкі пад Койданавым і Мазыром спынілі татара-манголькае нашэсьце. У XIV ст. яны правялі беларускую рэканкісту - адваявалі ў татар Украіну. Пад Грунвальдам спынілі націск на Ўсход нямецкіх крыжаносных ордэнаў. 300 год баранілі сваю незалежнасьць ад націску з боку Масквы. Толькі ў 1795 г. незалежная Беларусь загінула разам з Украінай, Польшчай і Літвой пад ударамі суседніх імперыялістычных захопнікаў, пасьля чаго амаль у кожным пакаленьні паўставала ў барацьбе за адраджэньне незалежнасьці.
- ***глыбокая рэлігійнасьць, або маральнасьць.*** У Беларусі ніколі не панавала толькі адно веравызнаньне і вельмі доўга не існавала дзяржаўнай рэлігіі. Усе спробы ўнесьці такую рэлігію прыносілі Беларусі шкоду. Менавіта з гэтай прычыны нашыя продкі былі шчырымі, а не фармальнымі вернікамі, што знайшло сваё адлюстраваньне ў фальклоры, сакральным мастацтве і народных традыцыях.
- ***талерантнасьць.*** Многія блытаюць сёньня талерантнасьць з рахманасьцю, лагоднасьцю, бесхрыбетнасьцю ці абыякавасьцю. На самой справе талерантнасьць азначае здольнасьць жыць побач і паважаць погляды і перакананьні людзей іншай культуры і звычаяў. Але не ахвяруючы пры гэтым каштоўнасьцямі сваёй, развіваючы і абагачаючы яе лепшымі набыткамі суседзяў. Сапраўды, сотні год на зямлі Беларусі жывуць татары і габрэі. Сюды беглі католікі з Паўночнай Эўропы ў часы Рэфармацыі і стараверы з Масковіі. І ўсе яны захоўвалі сваю непаўторную культуру, надаючы ёй разам з тым відавочнае беларускае адценьне.



Гэтая асаблівасьць беларускага менталітэту і культуры падвяргаецца асабліва настойлівым і бесперапынным нападам, калі пад выглядам клопату аб атрыманьні адукацыі сусьветнага ўзроўню нішчыцца беларуская сістэма адукацыі, асабліва ў галіне гістарычных ведаў.

Можна таксама гаварыць аб праўдалюбстве і павазе да ведаў і навукі, як характэрных рысах традыцыйнай беларускай культуры, што адлюстроўвалася ў вялікай колькасьці навукаёмістых вытворчасьцей, якія сканцэнтраваліся ў Беларусі пры камуністычнай уладзе.

Але менавіта ў гэтым накірунку - накірунку нацыянальна-культурнага адраджэньня існуючая ўлада наносіць свайму народу найбольшую шкоду. Працягваецца грубае і агрэсіўнае скажэньне гістарычнай праўды адносна Беларусі, мэтанакіравана і абразьліва зьневажаюцца старажытныя нацыянальныя сімвалы і каштоўнасьці нацыянальнай культуры, найперш мова. Невукі і цемрашалы, якія кантралююць дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі, навязваюць чужыя звычаі і погляды, замінаючы працэсу самаідэнтыфікацыі беларусаў і адраджэньню пачуцьця нацыянальнай годнасьці і гонару, без якіх немагчыма спыніць нарастаючую амаральнасьць і дэзынтэграцыю грамадзтва, аб'ядаць намаганьні ў пераадоленьні эканамічнага крызысу.

Цяпер мне засталося адказаць на кароткае, але найбольш складанае пытаньне - што рабіць? Як ажыцьцявіць нацыянальна-дэмакратычную палітычную праграму ва ўмовах сучаснай беларускай рэальнасьці? Гэта найбольш дыскусійная частка дакладу. Я мяркую, што найперш неабходна вызначыць прыярытэты ў дасягненьні 3-х галоўных мэтаў нацыяналізму - дасягненьне незалежнасьці, грамадзкага міру і нацыянальна-культурнага адраджэньня. Тут мы можам, відавочна, разыйсьціся ў меркаваньнях з сяброўскімі дэмакратычнымі партыямі ліберальнага і сацыял-дэмакратычнага накірунку. З усяго досьведу дзейнасьці БНФ па майму глыбокаму перакананьню вынікае, што менавіта ад посьпеху нацыянальна-культурнага адраджэньня і самаідэнтыфікацыі беларусаў, як самастойнай і годнай нацыі, залежыць посьпех ў дасягненьні сапраўднай дзяржаўнай незалежнасьці і грамадзянскага міру праз пакутлівую, цяжкую, неадкладную і непазьбежную працэдуру сацыяльна-эканамічнага рэфармаваньня, якое павінна закрануць глыбінныя адносіны ўласнасьці, рэструктурызацыю эканомікі, сацыяльна-псіхалагічную сьферу вытворчых адносінаў , фінансы і г.д.

Паскорыць працэс культурнай самаідэнтыфікацыі можна, як сьведчыць прыток моладзі ў шырокі дэмакратычны рух гэтай вясною, праз рэформу сістэмы адукацыі і культуры, разьняволеньне сродкаў масавай інфармацыі. А ўсе гэтыя мэты лёгка дасягаюцца ў выпадку заваёвы палітычнай улады. Папярэджваючы расчараваньне скептыкаў (маўляў, якое ж гэта адкрыцьцё!), хачу падкрэсьліць, што БНФ заваёву палітычнай улады ніколі не разглядаў як першачарговую задачу. Пра гэта пераканаўча сьведчыць наша даволі няўклюдная палітыка саюзаў з дэмакратычнымі партыямі і пастаянныя спрэчкі аб першынстве.

Зараз яны павінны быць адкінуты, а БНФ трэба прадэманстраваць сваю гатоўнасьць да аб'яднаньня з усімі апазіцыйнымі сёньняшняму рэжыму сіламі. Гэтаю вясною мы здолелі дасягнуць паразуменьня па шырокаму колу пытаньняў з АГП. Наперадзе пошукі формаў адзінства з СДС. Мінулай восеньню мы з большага скаардынавалі выбарчую кампанію і ў выніку перашкодзілі прэзідэнту сарваць выбары. Усе гэтыя "кропкі росту" павінны атрымаць далейшае разьвіцьцё ў працэсе падрыхтоўкі да восеньскіх давыбараў у парламант, да магчымых датэрміновых прэзідэнцкіх выбараў, а таксама ў выпадку восеньскага абвастрэньня сацыяльна-палітычнай сітуацыі, вельмі верагоднай у выніку няздольнасьці нашага рэжыму спыніць эканамічны спад.

Для гэтага мы павінны перахапіць прапагандысцкую ініцыятыву ў "шэрых палкоўнікаў" прэзідэнта. Мы павінны супрацьставіць змрочнаму, злоснаму і тупому шавінізму і расізму, клаўстрафобіі і рэваншызму іх танных агітак наступальны, канструктыўны, ясны, патрыятычны, лёгкі і вясёлы нацыяналізм. Ідэя любові заўсёды вышэй і прыцягальней ідэі нянавісьці.

Дарэчы, гэты філасофскі ідэалізм ніяк не супярэчыць эканамічнаму матэрыялізму. Усе гэтыя бясплённыя інтэграцыйныя дамовы, якія толькі нясуць шкоду інтарэсам Беларусі, пракладаюць шлях эканамічнаму нацыяналізму, разуменьню таго, што для суверэннай краіны абарона нацыянальна-эканамічных інтарэсаў - вышэйшы закон. Як сказаў Чэрчыль: "У Англіі ёсьць толькі пастаянныя інтарэсы і няма пастаянных саюзьнікаў". Вось бы пасьмяяўся сэр Уінстан, калі б пачуў разважаньні Аляксандра Рыгоравіча пра панславянскае адзінства, гістарычнае братэрства. Але б пасьмяяўся б не з яго, а з нас - тых, хто пакорліва слухае гэтую небясьпечную дэмагогію.

Як любая таталітарная сістэма, сёньняшні рэжым больш за ўсё баіцца слова. Таму А.Лукашэнка пачаў сваё прэзідэнцтва з усталяваньня цэнзуры на дзяржаўныя сродкі інфармацыі, таму ўсе абяцаньні прэзідэнцкай каманды наконт "круглых сталоў" і ўліку думкі апазіцыі - ня больш, чым хлусьня. І таму яны яшчэ так баяцца маніфестацый і мітынгаў, бо гэта - непадкантрольная ім інфармацыя.

У сваёй выхаваўчай, агітацыйнай рабоце Фронту трэба зьмягчыць акцэнты. Перастаць быць большымі каталікамі, чым Папа Рымскі. Даць, напрыклад, правы грамадзянства звычайнай трасянцы. Прызнаць, што ня толькі мова, але і культурныя стэрэатыпы, побытавыя звычкі, што перадаюцца традыцыяй, вызначаюць нацыянальна-культурную прыналежнасьць. Але змагацца за беларускамоўную адукацыю і гістарычную праўду.

Такім чынам да трох кітоў нацыянальнай ідэі: дзяржаўнай незалежнасьці, прававога салідарнага грамадзтва і культурнай самастойнасьці я дадаў бы некалькі парадаў тактычнага плану. Гэта наступальны характар нашай агітацыі, яе талерантны характар, ды імкненьне да сталага саюзу ўсіх дэмакратычных апазіцыйных рэжыму сіл, якія згодны з нашым разуменьнем нацыянальнай ідэі.




**2 жніўня**



**1842 г.** Нарадзіўся Уладзімір Кавалеўскі, знакаміты прыродазнавец, заснавальнік эвалюцыйнай палеанталогіі. Муж Соф'і Кавалеўскай.

**3 жніўня**



**1615 г.** Памёр Крыштоф Дарагастайскі (Манавід, граф Ляліва), дзяржаўна-рэлігійны дзеяч ВКЛ, асьветнік, заснавальнік друкарні ў Ашмяне Мураванай.

**4 жніўня**



**1676 г.** Нарадзіўся Дамінік Рудніцкі, пісьменьнік, педагог. Працаваў у Горадні, Навагрудку.

**5 жніўня**



**1506 г.** На рацэ Лань (каля Клецку) адбылася бітва паміж войскам ВКЛ (з удзелам гарадзенскай харугвы) і крымскімі татарамі.

**1816 г.** Памёр Тамаш Ваўжэцкі, знакаміты грамадзка-палітычны і вайсковы дзеяч, адзін з кіраўнікоў паўстаньня 1794 г.



**1908 г.** Памёр Валеры Урублеўскі (ураджэнец мястэчка Жалудок на Шчучыншчыне), славуты дзеяч міжнароднага вызваленчага руху.

**6 жніўня**



**1517 г.** Францішак Скарына ў Празе выдаў першую кнігу Біблії на тагачаснай беларускай мове.

**7 жніўня**



**1932 г.** У вёсцы Расолы на Астравеччыне нарадзіўся Адам Мальдзіс, выбітны сучасны літаратуразнавец, даследчык беларушчыны.

# КУРЛОВІЧ ПРАЙГРАЎ...




**На рахунку зборнай Беларусі на Алімпіядзе адзін залаты, пяць срэбных і восем бронзавых медалёў. Фатальна не шанцуе лідарам каманды.**

... Толькі пяты. І нават усьмешка на твары перад аб'ектывамі кінакамер не схавала расчараваньня і болю на твары Аляксандра Курловіча - галоўнай надзеі беларускага спорту ў Атланьце.

У першым практыкаваньні - рыўку, наш супервагавік з аграмаднай цяжкасьцю і толькі з трэцяй спробы ўзьняў 195 кілаграмаў. Расейцу Чамеркіну скарыліся 197,5 кг. Аўстраліец Боцеў і немец Вельлер паднялі па 200 кг.

Штуршок. Курловіч замест раней заказаных 240 падыходзіць да штангі ўсяго ў 230 кг. Аказваецца, у злашчасным рыўку Аляксандр атрымаў траўму і таму вымушаны быў зьменшыць вагу штангі, каб увогуле не выбыць са спаборніцтваў. Наступная спроба была на 247,5 кг. Але траўма не дазволіла нават устаць з гэтай штангай. Больш на памост Курловіч не выходзіў. А барацьбу за медалі далей павялі яго супернікі. У кроку ад перамогі быў Роні Вельлер, які ўзяў 255 кг, пабіўшы сусьветны рэкорд Чамеркіна (253,5 кг). Каб заваяваць золата, расеец мусіў узьняць штангу з фантастычнай вагой у 260 кг і 160-кілаграмоваму Андрэю Чамеркіну гэта ўдалося.

Не дачакаліся мы золата і ад "вечна другога" малатабойца Ігара Астапковіча. У Амерыцы гарадзенец стаў толькі сёмым. Яшчэ горш выступіла чэмпіёнка сьвету ў кіданьні кап'я Натальля Шыкаленка - толькі 12-ы вынік. Яшчэ адна чэмпіёнка сьвету Эліна Зьверава - стала трэцяй у кіданьні дыску. Затое прыемны падарунак беларускім аматарам спорту зрабілі семіборка Натальля Сазановіч, заваяваўшая "срэбра" і дыскабол з Горадні Уладзімір Дуброўшчык. Трэцім у гэтым відзе лёгкай атлетыкі стаў Васіль Капцюх з Менска.



Гарадзенец Эдуард Хямяляйнен пасьля пяці відаў дзесяціборʼя быў на 5-м месцы.

Галоўнай жа падзеяй мінулага тыдня стала перамога Кацярыны Хадатовіч у акадэмічным весланьні, прынёсшая Беларусі першае і адзінае пакуль "золата". Бронзавы медаль заваяваў і экіпаж жаночай "васьмёркі".

Важкі медалёвы ўклад у скарбонку зборнай зрабіў Віталь Шчэрба. Тры "бронзы": на брусах, перакладзіне і ў апорным скачку, упрыгожылі апошні афіцыйны турнір славутага беларускага гімнаста, які пакідае вялікі спорт. Гарадзенец Іван Паўлоўскі ў апорным скачку заняў 8-е месца.

Сёньня на Алімпіядзе стануць вядомыя пераможцы ў спартыўнай хадзьбе на 50 кіламетраў, у скачках у даўжыню (жанчыны), у некалькіх вагавых катэгорыях у боксе і вольнай барацьбе, мастацкай гімнастыцы.

**Віталь РУДНІК.**

**Фота А.Перахода.**

# КІНААФІША ГОРАДНІ

**ГРОДНА**

2-5 жніўня "Капальні цара Саламона" 9.50, 11.40, 13.30, 15.20, 17.10, 19.10, 21.00; 6-11 жніўня "Паміж двух агнёў" (дэтэктыў, рэжысёр Клод Зідзі); Пачатак сеансаў: 9.50, 11.40, 13.30, 15.20, 17.10, 19.10, 21.00; ВІДЭА. Пачатак сеансаў: 10.00, 12.00, 14.00, 16.00, 18.00, 20.00. 2-3 жніўня - "Маёр Пэн" (камедыя) 4-5 жніўня - "Забойчы гнеў" (баявік) 6-7 жніўня - "Небясьпечныя павароты" (камедыя) 8-10 жніўня - "Гарадзкія піжоны-2" (камедыя)

**КОСМАС**

2-3 жніўня "Кожная дзяўчына мае свой шанц" (крымінальная камедыя ЗША) - 13.40, 15.30, 17.20, 19.10, 21.00; 4 жніўня "Кожная дзяўчына мае свой шанц" (крымінальная камедыя ЗША) - 11.50,13.40, 15.30, 17.20, 19.10, 21.00

**ЧЫРВОНАЯ ЗОРКА**

3-5 жніўня "Машына сьмерці" - 11.20 (льготны), "Сьпіна да сьпіны" (баявік) - 12.10, 16.30, 20.50; "Ціхі стрэл" (снайпер-3) - 14.20, 18.40; "Сьмерч" (прыгоды) - 13.50, 16.00; "Эратычныя ночы Элкі" (да 18 год)- 18.00, 20.00; 6-8 жніўня "Вулічны баец" - 11.20 (льготны); "Мацнейшы ўдар-2" (баявік) - 12.10, 16.30, 20.50; "Дзень незалежнасьці" - 14.10, 18.30; "Пратэўс" (жахі) - 13.50, "Ключ" (эротыка) - 16.00, 18.00, 20.00.

**Аўтаадказчык** кінатэатра "Чырвоная зорка" - 72-29-08.

**ім. ПУШКІНА**

2 жніўня "Дурнаваты прафесар" - 10.00 (льготны), "Незьнішчальны шпіён" (камедыя) - 12.00, 16.00; "Крыкуны" (баявік) - 14.00, 18.00, 20.00; Дыскатэка - 21.00; 3 жніўня "Успомніць усё" - 10.00 (льготны); "Прывіднае шчасьце" (Індыя) - 12.00, 16.40, "Крык" (баявік) - 14.40, 19.20, Дыскатэка -21.00; 4 жніўня "Прывіднае шчасьце" - 12.00, 16.40, "Крык" (баявік) - 14.40, 19.20, Дыскатэка - 21.00; 5-6 жніўня "Успомніць усё" - 10.00 (льготны) "Прывіднае шчасьце" -14.00, 18.30, "Крык" (баявік) - 12.00, 16.40, 21.00.

# ПАГАНСКІЯ ДЫВЕРТЫСЬМЕНТЫ

**Нядаўна ў выставачнай зале абласнога аддзяленьня Саюзу беларускіх мастакоў адкрылася выстава менскіх жывапісцаў - Анатоля і Ірыны Кузьняцовых.**

Цікава ня толькі тое, што муж і жонка выставілі на суд гледачоў свае працы разам ( паводле стылістыкі іхняя творчасьць падобная), але і сама тэматыка экспазіцыі, якую яны чамусьці назвалі "АБУДЖЭНЬНЕ". Як адзначыў на прэзэнтацыі скульптар Уладзімір Церабун, на сьветапогляд мастакоў Кузьняцовых паўплывала вучэньне Рэрыхаў. Аднак, калі ўважліва ўглядзецца ў карціны Анатоля і Ірыны, пераконваешся, што захапленьне "рэрыхаўшчынай" ня больш, чым даніна модзе, якая сыходзіць, саступаючы месца роднаму паганству. Нездарма цыкл прац Анатоля Кузьняцова так і называецца - "Паганскія дывертысьменты".

Варта дадаць, што на выставе можна набыць каляровыя буклеты з рэпрадукцыямі карцін менскіх майстроў, а таксама паэтычны зборнік Ірыны Кузьняцовай.

**Людвік САРОКА.**



**Фота У.УЛАДАСЕВІЧА.**
**На здымку: фрагмент экспазіцыі.**

# 0:8 НА ДВАІХ

**У апошнім туры чэмпіянату краіны гарадзенскі "Нёман" і лідзкі "Абутнік" з аднолькавым лікам 0:4 саступілі адпаведна "Маладэчну" і менскаму "Дынама".**

**ТУРНІРНАЯ ТАБЛІЦА ПАСЬЛЯ ПЕРШАГА КРУГА**

| | |
|---|---|
| 1. "МВКЦ" Мазыр | 37 |
| 2. "Дынама" Менск | 36 |
| 3. "Белшына" Бабруйск | 36 |
| 4. "Атака-Аўра" Менск | 28 |
| 5. "Дынама-93" Менск | 25 |
| ... | |
| 10. "Нёман" | 16 |
| ... | |
| 14. "Абутнік" | 10 |
| 15. "Тарпеда" Магілёў | 9 |
| 16. "Ведрыч" Рэчыца | 6 |

Заўтра і пасьлязаўтра на стадыёнах краіны адбудуцца гульні 1/8 розыгрышу Кубку Беларусі па футболе. Абедзьвюм гарадзенскім камандам, якія выйшлі ў гэтую стадыю турніру, гуляць прыйдзецца на чужых палях. "Нёману" лёсаваньне наканавала сталічную "Атаку-Аўру", а "Кардан Флайерс" згуляе з магілёўскім "Дняпром".

* * *

Таварыская сустрэча 31 ліпеня. **Беларусь-Летува,** 2:2.

**КРЫМІНАЛ**

# І НАД ТРУПАМ ПАСАДЗІЎ МАЛІНУ

**29 ліпеня ў абласным Упраўленьні ўнутраных справаў прайшоў брыфінг, прысьвечаны стану злачыннасьці на Гарадзеншчыне ў першым паўгоддзі 1996 году. Праводзіў сустрэчу з журналістамі начальнік службы крымінальнай міліцыі Віктар Жарабіла.**

Нягледзячы на невялікае зьніжэньне колькасьці зарэгістраваных злачынстваў у параўнаньні з адпаведным перыядам мінулага году (на 4,2 працэнта), сітуацыя застаецца вельмі складанай. За шэсьць месяцаў зьдзейсьнена 48 забойстваў. Тры ахвяры (целы мужчына, расейца і гарадзенкі) у Гарадзенскім раёне ўдалося знайсьці толькі пасьля таго, як сышоў сьнег. Усё больш людзей прападае бяз вестак. Так, цела прапаўшага гарадзенца, які 3 ліпеня нібыта ад'ехаў у Польшчу, 15 ліпеня знайшлі закапаным на дачы знаёмага. З дзьвюма кулявымі ранамі. Забойца нават куст маліны над трупам пасадзіў. Рэзка павялічылася ў вобласьці колькасьць скрадзеных машын. Калі ў 1987 годзе за год такіх злачынстваў было ўсяго тры, то ў 1995-м - ужо 219, а за 6 месяцаў гэтага году - ужо 90. Угонам машын у нас займаюцца, у асноўным, злачынныя групоўкі з Расеі (пермская) і з Летувы. Зразумела, з дапамогай мясцовых "наводчыкаў". У сваю чаргу гарадзенскія "аўтааматары" "палююць" у Польшчы, дзе іх ахвярамі становяцца, у асноўным, суайчыньнікі.

Характарызуючы стан злачыннасьці, сп. Жарабіла адзначыў, што яе адметнасьцю сёньня зьяўляецца высокая арганізацыя і прафесіяналізм. Рост інтэлектуальнага ўзроўню злачынцаў міліцыянты прагназуюць і надалей. Ці зможа гэтаму супрацьстаяць міліцыя?

**Віталь РУДНІК.**

# КРЫЖАВАНКА

*Перакладзі на беларускую мову*



**Па гарызанталі:** 5. Мшанка. 6. Швея. 10. Дымка. 11. Трубка. 12. Стройка. 13. Пар. 15. Плен. 18. Пахарь. 19. Корь. 20. Дюжина. 22. Сумка. 25. Мочь. 27. Деревянное масло. 29. Рюмка. 31. Широкая межа. 32. Отечество. 33. Скот (крупный рогатый). 34. Проволочка.

**Па вертыкалі:** 1. Зарево. 2. Дубление. 3. Изразец. 43. Жировая капля на воде. 7. Утёнок. 8. Зерно, хлеб. 9. Висок. 14. Родина. 15. Благодарность. 16. Стража. 17. Читатель. 21. Метель. 23. Утро. 24. Пион. 26. Гончая собака. 28. Светец. 29. Ком. 30. Колышек.

**Адказы на крыжаванку, зьмешчаную ў папярэднім нумары.**

Па гарызанталі: 7. Старызна. 8. Радзімка. 9. Пляск. 10. Кукса. 11. Пожаг. 14. Недаверак. 17. Цецярук. 18. Матачка. 19. Кавалер. 21. Калатня. 25. Іншаземец. 28. Пярун. 29. Дыван. 30. Човен. 31. Баравіна. 32. Ужыванне.

Па вертыкалі: 1. Сталенне. 2. Брусы. 3. Мацунак. 4. Прасцяк. 5. Кідок. 6. Скразняк. 12. Летуценне. 13. Гадаванец. 15. Бядак. 16. Пакат. 20. Абавязак. 22. Найменне. 23. Пажытак. 24. Недавук. 26. Гумар. 27. Ґонар.

# ГАРАСКОП НА ТЫДЗЕНЬ

**БАРАН (21.3-20.4)** Тыдзень павінен прайсьці спакойна.Халастыя ў выхадныя дні могуць сустрэць асобу, якая прывядзе іх да шлюбу. Нядрэнныя фінансавыя магчымасьці дазволяць зрабіць удалыя пакупкі.

**ЦЯЛЕЦ (21.4-20.5)** Тым, хто займаецца бізнэсам, Меркурый паспрые зрабіць добрыя гандлёвыя дамовы. Але ў чацьвер іх падпісваць непажадана. У пачуцьцях магчымы зьмены эмоцый. Не фліртуйце з Скарпіёнамі.

**БЛІЗЬНЯТЫ (21.5-21.6)** Памятайце, што Венера хутка пакіне ваш знак. Затое Меркурый абяцае ўік-энд у вясёлай кампаніі. Добрае здароўе.

**РАК (22.6-22.7)** Вельмі карысны пачатак тыдня. Посьпехі ў працы, магчымы ўзнагароды. Пасьля трэба адпачыць і падрыхтавацца да сустрэчы з Венерай. З кожным днём усё больш пачнуць паважаць сябры і асобы супрацьлеглага полу.

**ЛЕЎ (23.7-23.8)** Добры тыдзень для працы. Сонца будзе дадаваць энэргіі. Можаце разьлічваць на дапамогу сям'і. Паспрабуйце ў гэтыя дні вырашыць свае найцяжэйшыя справы.

**ПАННА (24.8-23.9)** Зьяўленьне Меркурыя ў вашым знаку (1.08) адкрые новыя магчымасьці ў працы. Добры момант, каб павялічыць даходы, але трэба быць вельмі ўважлівым. Не дзейнічайце ў адзіночку, засёды раіцеся з сябрамі.

**ШАЛІ (24.9-23.10)** Перад вамі дні цудоўнай гармоніі ў адносінах з блізкімі людзьмі. Асабліва ўік-энд будзе спрыяць палепшэньню сямейных сувязяў. На працы здолееце пазьбегнуць магчымых канфліктаў.

**СКАРПІЁН (24.10-22.11)** Неабходна падрыхтавацца да нечаканых канфліктных сітуацый. Але, калі атрымаецца іх абыйсьці, вас спаткаюць прафесійныя посьпехі. Пад час выхадных магчымы візіт далёкіх родзічаў.

**СТРАЛЕЦ (23.11-21.12)** Пасьля добра праведзенай нядзелі неабходна ўсур'ёз узяцца за працу. Бліжэйшымі днямі маеце шанцы палепшыць свой прафесійны ўзровень. Пачытайце літаратуру, зьвязаную з вашай работай і знайдзіце некалькі ўдалых думак. Дома поўная гармонія.

**КАЗЯРОГ (22.12-20.1)** Бліжэйшыя дні могуць прынесьці непрыемнасьці. Неабходна сачыць за эмоцыямі. У цяжкіх сітуацыях вас падтрымае каханы чалавек. Але нельга перакладаць на яго ўсе свае праблемы.

**ВАДАЛЕЙ (21.1-19.2)** Выхадныя дні разьвеюць усе сардэчныя праблемы. Вас чакаюць сустрэчы, ад якіх хучэй заб'ецца сэрца.

**РЫБЫ (20.02-20.3)** Тыдзень будзе насычаны сяброўскімі сустрэчамі. Але нельга забываць пра службовыя абавязкі. Чакаюцца сур'ёзныя прапановы ад кіраўніцтва. Асьцярожна з алкаголем!

ПАГОНЯ
Грамадзка-палітычная газета
Заснавальнік: культурна-асьветніцкі фонд «Бацькаўшчына»
Рэгістрацыйны нумар 465
Падпісны індэкс 63124

Адрас рэдакцыі:
230023, г.Горадня, вул. Дамініканская, 1
(0152) 45-35-61, 45-29-96
E-mail: andrei@pagonia.belpak.grodno.by
FREESPACE BBS 0152-45-37-14 (23.00-10.00)



Гарадзенская абласная узбуйнёная друкарня.
230023, г.Горадня, вул. Паліграфістаў, 4
Заказ 2658 Наклад 13185
Нумар падпісаны да друку ў 16.00, 01.08.96

Рэдактар Мікола Маркевіч